**№21 (1834)**

Пятніца , 6 лютага 2004 г.

Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах

Перыядычнасць —
5 разоў у тыдзень

Выдавец:
УП «Народная воля»

Кошт свабодны.


# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою…*

**Якуб КОЛАС**


**E-mail: nv@promedia.by**
**http://nv.promedia.by**


### *Надвор'е*

У Мінску сёння ўдзень чакаецца — 0...+2, уначы — +2...+4, на працягу сутак — дождж; у Брэсце ўдзень — +5...+7, уначы — +7...+9, на працягу сутак — дождж; у Гродне ўдзень — +4...+6, уначы — +6...+8, на працягу сутак — дождж; у Віцебску ўдзень — -1...+1, без ападкаў, уначы — 0...+2, дождж; у Гомелі ўдзень — -1...+1, снег, уначы — +1...+3, дождж; у Магілёве ўдзень — -1...+1, без ападкаў, уначы — -1...+1, дождж.

*www.meteo.by*



**ПУЛЬС**

## На галадаючых віцебскіх прадпрымальнікаў не звяртаюць увагі

Безвынікова закончыліся перамовы віцебскіх прадпрымальнікаў з адміністрацыяй горада і вобласці. Пра гэта паведаміў старшыня рэспубліканскага грамадскага аб'яднання (РГА) "Перспектыва" Анатоль Шумчанка.

2 лютага пачалася галадоўка 28 прадпрымальнікаў, якія выступаюць супраць дзеянняў гарадскіх улад. 3 лютага колькасць галадаючых узрасла да 30. Акцыя праходзіць у крытым гандлёвым цэнтры "Мішэль", дзе прадпрымальнікі, у асноўным жанчыны, размясціліся ў галоўным холе.

Падчас перамоваў з кіраўніцтвам горада і вобласці каля будынка абласнога выканаўчага камітэта сабраліся прыкладна 450—500 прадпрымальнікаў. Лідэр РГА "Перспектыва" адзначыў, што "чыноўнікі былі гатовы ўвесці мараторый толькі на шэраг сваіх дзеянняў", але гэта не задаволіла прадпрымальнікаў. Паводле інфармацыі А.Шумчанкі, намеснік старшыні Віцебскага аблвыканкама Пётр Южык заявіў "аб немагчымасці прымаць рашэнні пад націскам, а таксама аб магчымай адказнасці ініцыятараў акцыі".

**Генадзь ШАРЫПКІН.**

## Амерыканскі пасол шчыра вітае намаганні беларусаў наконт аднаўлення сядзібы Касцюшкі

"Мяне ўражваюць тыя намаганні, якія прыкладаюць цяперашнія ўлады, аднаўляючы сядзібу Касцюшкі. Асабліва хачу адзначыць уклад супрацоўніка ўпраўлення культуры Брэсцкага аблвыканкама Леаніда Несцерчука", — сказаў Дж.Крол на мітынгу ва ўрочышчы Мерачоўшчына, дзе нарадзіўся Нацыянальны герой Польшчы і ЗША, ганаровы грамадзянін Францыі Тадэвуш Касцюшка.

Т.Касцюшка быў спецыялістам у ваенным інжынерным будаўніцтве, атрымаўшы спецыяльную адукацыю ў Польшчы і Францыі. У ЗША Т.Касцюшка кіраваў будаўніцтвам абарончых збудаванняў, якія дапамаглі амерыканцам перамагчы англічан, што, на думку Дж.Крола, адыграла вялікую ролю ў барацьбе за незалежнасць ЗША.

Аднаўленнем сядзібы Т.Касцюшкі ва ўрочышчы Мерачоўшчына (Івацэвіцкі раён) займаецца падрадная арганізацыя ПМК-18 горада Івацэвічы. Ужо ўмацаваны падвалы, ідзе нарыхтоўка драўніны ў адным з лясніцтваў Івацэвіцкага раёна, камянёў і чароту.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ.**

## Вярхоўны суд разгледзіць справу асуджанага да расстрэлу

На 20 лютага ў Вярхоўным судзе Беларусі прызначаны разгляд касацыі ў дачыненні да 32-гадовага мінчаніна, асуджанага Мінскім гарадскім судом да вышэйшай меры пакарання — расстрэлу.

Такі суровы прысуд злачынца атрымаў за ўчыненне з асаблівай жорсткасцю ў 2003 годзе ў Мінску забойства пяці чалавек. Будучы ў кампаніі і распіваючы спіртное, ён нечакана схапіў кухонную сякеру і стаў збіваць ёю сваіх ахвяраў. У выніку двое мужчын і тры жанчыны ад шматлікіх чэрапна-мазгавых траўмаў памерлі на месцы. Улічваючы, што злачынца раней ужо быў тройчы судзімы, у тым ліку і за забойства, Мінгарсуд вырашыў, што няма падстаў прызначаць абвінавачанаму пакаранне "ў выглядзе максімальнага пазбаўлення волі або пажыццёвага зняволення".

**Андрэй АЛЕКСАНДРОВІЧ.**

**ТЭНІС: КУБАК ДЭВІСА**

# Марат Сафін прыляцеў у Мінск спецыяльным авіярэйсам. Калі не выйграе, назад паедзе цягніком?



...Пазаўчора да расійскай каманды далучыўся і фіналіст нядаўняга Адкрытага першынства Аўстраліі Марат Сафін *(на здымку справа)*, які прыляцеў у Мінск у 13.30 спецрэйсам, самалётам з Лондана праз Маскву (некаторыя дасціпнікі ўжо кажуць, што, калі не выйграе, то назад "пачухае" цягнікам).

З журналістамі Сафін не размаўляў і ўжо ў 14.30 засяліўся ў чатырохзоркавы гатэль "Мінск", дзе і жыве расійская зборная. Капітан расіян Шаміль Тарпішчаў размясціўся ў "т-люксе". Кошт гэтых апартаментаў — 310 умоўных адзінак у суткі. Кіраўнікі абжылі двухпакаёвыя люксы. Іх кошт 210 тых жа ўмоўных адзінак у суткі. Частка расійскай дэлегацыі пражывае ў аднапакаёвых нумарах, коштам у 100 у.а. Па нашай інфармацыі, спартсмены жывуць па адным, а вось тэхперсаналу (тым жа масажыстам) даводзіцца дзяліць жыллёвую плошчу на дваіх.

Што тычыцца харчавання, то расіянам прыйшлася даспадобы беларуская кухня. З вялікім апетытам расіяне частуюцца дранікамі і баршчом... Падабаюцца гасцям і розныя салодкія ласункі.

Дарэчы, расійскі тэнісіст Мікалай Давыдзенка, адказваючы на пытанне журналістаў пра тое, ці ёсць у расіян час на экскурсіі па беларускай сталіцы, адказаў, што *"ўсе экскурсіі нашай каманды пралягаюць па адным і тым жа маршруце — гатэль — манеж... Але я, напрыклад, быў у кафэ "Кубік",і мне там спадабалася".*

Што ж, як бачым, у бытавым плане ў расіян ніякіх праблем няма. Застаецца спадзявацца на Максіма Мірнага *(на здымку злева)* і кампанію — верыцца, што нашы спартсмены створаць сваім сябрам-сапернікам пэўныя праблемы на корце.

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

**P.S.** *Літаральна за некалькі хвілін да падпісання нумара ў друк сталі вядомы вынікі жараб'ёўкі тэніснага матча Беларусь—Расія. Нечаканым для многіх стала тое, што пад першым нумарам у расіян заяўлены малады Ігар Андрэеў. Сёння ў 13.00 ён згуляе з Уладзімірам Ваўчковым, а затым на корт выйдуць Максім Мірны і Марат Сафін.*

*Заўтра, у 14.30 адбудзецца ўрачыстае адкрыццё турніру, а адразу пасля гэтага — парная сустрэча: Мірны/Ваўчкоў — Сафін/Южны. У нядзелю, у 13.00, на корт выйдуць Максім Мірны і Ігар Андрэеў, а затым Уладзімір Ваўчкоў згуляе з Сафіным.*



# Европейский Гуманитарный Университет — в опасности!

*О том, что над минским Европейским Гуманитарным Университетом сгустились тучи, знают все. Обеспокоена не только белорусская общественность, но и, можно сказать, мировая.*

*Поскольку в его создании и функционировании приняли участие многие страны, то вполне понятен визит Послов к министру образования Республики Беларусь **Александру РАДЬКОВУ**. Все прекрасно осознают: дело не в академике Михайлове, который на данный момент является ректором этого учебного заведения и сместить с должности которого взялись власти, а в том, что им, белорусским властям, не нужен тот дух, который витает в стенах Европейского Гуманитарного Университета. Налицо тенденция: от уничтожения Гуманитарного лицея им.Я.Коласа белорусские власти перешли к уничтожению Европейского Гуманитарного Университета.*

*Получив текст Обращения к А.Радькову Посла Франции в Республике Беларусь г-на **Стефана ШМЕЛЕВСКОГО**, редакция "Народной воли" считает целесообразным доведение его содержания до широкой читательской аудитории.*

## Обращение г-на Стефана ШМЕЛЕВСКОГО, Чрезвычайного и Полномочного Посла Франции в Республике Беларусь, к г-ну Александру РАДЬКОВУ, министру образования Республики Беларус ь

Господин Министр!

Я хотел бы поблагодарить Вас за то, что вы согласились встретиться со мной, и представить Вам сопровождающих меня лиц:

**господин Йонас ПАСЛАУСКАС,** Посол Литовской Республики;

**господин Тадеуш ПАВЛЯК,** Посол Польши;

**господин Джордж КРОЛ,** Посол Соединенных Штатов Америки;

**господин Мартин ФЕННЕР,** Временный Поверенный в делах Соединенного Королевства Великобритании и Северной Ирландии;

**господин Ян КАНТОРЧИК,** Временный Поверенный в делах Федеративной Республики Германия;

**госпожа Тициана МАРИНИ,** Временный Поверенный в делах Италии;

**господин Эгонс НЕЙМАНИС,** Временный Поверенный в делах Латвийской Республики;

**господин Жозеф МАЦИШАК,** Временный Поверенный в делах Словакии;

**господин Владимир ЛУКАШТИК,** Советник Посольства Чехии;

**госпожа Кристен ЛАЙТЕН,** Консул Эстонской Республики;

**господин Ян ШАДЕК,** Глава минского офиса Посольства Швеции в Москве.

Как видите, перед Вами находятся, практически в полном составе, все страны — члены Европейского Союза, представленные в Минске, а также страны, которые станут его членами с 1 мая этого года. В то же время я хотел бы подчеркнуть присутствие Посла Соединенных Штатов Америки, страны, правительство которой полностью разделяет отношение стран — членов Европейского Союза по поводу моментов, которые я сейчас изложу.

Господин Министр!

Мы представляем страны, имеющие богатый опыт культурного и университетского сотрудничества с Беларусью. Каждый раз, когда в столицах наших государств обсуждаются связи с Беларусью, мы, Послы, всегда опираемся на тот факт, что Беларусь располагает превосходными университетскими кадрами, превосходными университетами и превосходными студентами. Мы также опираемся на тот факт, что до сегодняшнего дня в Вашей стране существовали университетские учреждения, финансирование которых не зависело от правительства, членом которого Вы являетесь. Вам известно, что в той части Европы, где расположена Ваша страна, а также по ту сторону Атлантики, считается, что наличие независимых от политической власти университетов является показателем существования или отсутствия демократических свобод в той или иной стране. Эта традиция независимых университетов в Европе отражает свободу мысли и берет начало со времен средневековья.

Каждый раз, когда мы общаемся с представителями университетской среды, будь то здесь, в Минске, или в любом из областных университетов, то и ректоры, и студенты всегда обращаются к нам с одной и той же просьбой: больше обменов, больше возможностей учебы за границей для белорусских студентов, больше преподавателей, приезжающих в белорусские университеты, чтобы поделиться своими знаниями.

Однако, господин Министр, нам стало известно, что 4 декабря прошлого года на заседании коллегии Министерства образования Вы осудили практику привлечения иностранных преподавателей белорусскими университетами. Если я правильно информирован, Вы высказывали мнение по поводу работы минского Европейского Гуманитарного Университета. Согласно Вашему мнению, привлечение иностранных преподавателей превращает это учреждение в проходной двор.

Господин Министр!

Мы пришли высказать Вам наше всеобщее непонимание подобного отношения. Я не хотел бы заострять внимание на оскорблении, которое таким образом было нанесено Вашим коллегам, членам иностранных университетов. Ведь они жертвуют своим временем, которое могли бы потратить на преподавание или исследования, но они не жалеют его для того, чтобы приехать в Беларусь со своими знаниями. В качестве примера я могу сообщить Вам, что этот факт был очень тяжело воспринят французским университетским сообществом. Но то, чего не понимают ни мои коллеги, ни я сам, это как может министр образования, сам университетский работник со стажем, проводить политику, которая расходится с интересами науки в целом и, в частности, с интересами собственной страны? Как в 2004 году страна, находящаяся в сердце Европы и обладающая таким огромным университетским и интеллектуальным потенциалом, может занимать такую позицию? Ведь самым очевидным ее результатом станет изоляция от всех направлений научной мысли, существующих сегодня в мире.

Господин Министр!

Я просил встречи с Вами для того, чтобы поставить Вас в известность о моем непонимании позиции, которую занимает Ваше министерство, начиная с 6 декабря прошлого года. Мои коллеги и я были обеспокоены Вашими словами, сказанными на заседании 4 декабря. Об этом я упоминал выше. Наше беспокойство вызывают также и другие обстоятельства.

Такие, как все возрастающие трудности, связанные с выездом белорусских студентов на учебу за границу. А также такие, как указание Совета Министров от 2 сентября 2003 года о закрытии Международного гуманитарного института.

И наконец, мне стало известно, что вчера Вы потребовали отставки ректора ЕГУ г-на Михайлова.

Господин Министр!

6 марта 2003 года я собственноручно вручил г-ну Михайлову от имени французского правительства знаки отличия Рыцаря Ордена "Академические пальмы". Насколько я понимаю, правительство Федеративной Республики Германия также собирается вручить ему значимую награду. Когда зарубежные страны и учреждения приняли решение материально поддерживать ЕГУ, они сделали это на основании точно такого же тщательного анализа его работы, как и анализ, проведенный Вашим министерством. И все эти страны, все университетские кадры уже более 10 лет назад пришли к выводу, что научные и личные качества ректора Михайлова являются одновременно основой существования ЕГУ и гарантией его плодотворной работы. Именно этим объясняется вручение ему наград. Требуя отставки ректора Михайлова, Вы опровергаете мнение многочисленных и известных университетских деятелей, которые не могли ошибиться в его качествах. Какими бы ни были причины Вашего решения, они расходятся с мнением университетского мира. Помните о том, что все правительства и учреждения, помогающие ЕГУ, возможно, не найдут тех же качеств у последователя г-на Михайлова, навязанного внешними силами этому независимому учреждению. Вследствие этого они могут прекратить оказывать ему помощь. Или именно в этом состоит цель действий белорусских властей?

Позвольте напомнить Вам, что для Европейского Союза, его настоящих и будущих членов, а также для Соединенных Штатов ЕГУ представляет собой символическое и важное свидетельство о наличии в Беларуси независимой научной мысли.

Будем говорить откровенно. Любого рода препятствия и сложности, создаваемые для работы Европейского Гуманитарного Университета, будут иметь самые негативные последствия для имиджа Вашей страны за границей, будь то в политическом или интеллектуальном мире. Не игнорируйте существования этой проблемы и не думайте, что она касается только Министерства иностранных дел Беларуси. Позвольте также заметить, что подобные действия значительно усложнят задачу для нас, тех, кто защищает идею сотрудничества каждой из наших стран с гражданским обществом вашей страны.

Господин Министр!

Не далее чем вчера Президент Беларуси, Александр Лукашенко, принимая верительные грамоты у Посла Ирландии, страны, в настоящее время председательствующей в Европейском Союзе, заявил, что Беларусь готова продемонстрировать "самые добрые намерения" и "настроена на деловое сотрудничество со всей Европой".

Таким образом, между намерениями, выраженными белорусским Президентом, и политикой, проводимой Вашим министерством, четко наблюдается абсолютное противоречие. Если мы искали встречи с Вами, то это для того, чтобы понять, можем ли мы оказывать доверие дружеским намерениям, публично заявленным Президентом Беларуси. Если можем, то, как нам кажется, господин Министр, Вам необходимо тщательно обдумать и переосмыслить Ваши решения. В обратном случае нам придется сделать соответствующие выводы и проинформировать об этом наши правительства.

Вы сами являетесь университетским работником, занимающимся теперь политикой. Позвольте просто заметить Вам, что за тем, что Вы делаете сегодня во главе Вашего Министерства, внимательно наблюдает почти миллиардное население как минимум 26 стран мира, которые мы представляем. Беларусь больше нуждается в этих странах, нежели они нуждаются в Беларуси.

Ваше место в центре Европы, а не в стороне от нее.

Это все, господин Министр, теперь я хотел бы передать слово моим коллегам.

Народная Воля

6 ЛЮТАГА 2004 г.

# Гэта злачынства – пазбаўленне людзей права на абарону сваіх правоў

*Як паведамлялася, нядаўна пад Мінскам прайшоў двухдзённы Форум праваабаронцаў.*
*У ім прынялі ўдзел 102 праваабаронцы з усёй Беларусі.*

Міжнародны праваабарончы рух рэпрэзентавалі аўтарытэтныя партнёры — Міжнародная федэрацыя правоў чалавека, Міжнародная ліга правоў чалавека, Міжнародная амністыя і Human Rights Watch. Акрамя беларускіх актывістаў на форум прыехалі праваабаронцы з Чэхіі, Расіі, Швецыі, Польшчы, Літвы, Украіны і Малдовы. Фактычна ўпершыню ў найноўшай гісторыі Беларусі ўдалося правесці такую маштабную сустрэчу, якая стала важкім адказам на распачаты беларускімі ўладамі працэс ліквідацыі праваабарончага руху.

"Зачыняючы няўрадавыя праваабарончыя арганізацыі, пераследуючы іх праз папярэджанні Мінюста, падатковыя інспекцыі, улады недвухсэнсоўна акрэслілі сваю пазіцыю і свае адносіны да праваабарончага руху ў Беларусі, — адзначыў на Форуме старшыня забароненага цэнтра "Вясна" **Алесь БЯЛЯЦКІ.** — У лепшым выпадку яны робяць выгляд, што не заўважаюць нас, у горшым — успрымаюць нас як ворагаў".

Апошнім часам быў прыняты шэраг заяў, датычных сітуацыі ў Беларусі. "Праваабаронцы Беларусі пад уціскам", — канстатавала летась Міжнародная амністыя. Факты закрыцця альбо пагрозы аналагічнага характару сведчаць аб нарастаючай тэндэнцыі нецярпімасці беларускіх уладаў да іншадумства і мірнай апазіцыі; цяперашняя сістэма накіравана на падаўленне беларускіх праваабаронцаў.

Сітуацыя пагаршаецца. Як сцвярджаюць беларускія праваабаронцы, у 2004 годзе парламенцкіх выбараў і магчымага рэферэндуму аб падаўжэнні прэзідэнцкіх паўнамоцтваў Аляксандра Лукашэнкі — практычна нельга правесці пікет ці дэманстрацыю, наладзіць выданне газеты, зарэгістраваць грамадскую арганізацыю. Паводле слоў Алеся Бяляцкага, "мы пазбаўлены права на дэмакратычныя выбары, нас перасьледуюць за грамадскую дзейнасць і нашы палітычныя перакананні".

Характар выбарчых кампаній апошніх гадоў скарэкціраваў дзейнасць беларускіх праваабарончых арганізацый. "Мы ўцягнуліся ў назіранне за выбарамі, бо якраз падчас гэтых кампаній найбольш выразна праяўляецца цэлы комплекс парушэння правоў чалавека. Мы выступаем за правядзенне свабодных і дэмакратычных выбараў, якія з'яўляюцца найбольш эфектыўным шляхам выпраўлення сітуацыі ў галіне правоў чалавека ў Беларусі", — падкрэсліў у сваім выступленні Алесь Бяляцкі.

Падчас назірання за выбарамі менавіта праваабаронцы выступаюць своеасаблівым ядром, вакол якога гуртуюцца дзесяткі іншых няўрадавых арганізацый. Толькі жаданнем уладаў правесці выбарчую кампанію па сваім апрабаваным сцэнарыі і можна патлумачыць загаддзя распачаты імі працэс па нейтралізацыі грамадскага назірання, прычым найцяжэйшая сякера паднята над праваабаронцамі.

Як быць у гэтай сітуацыі? Дамагацца дэмакратызацыі асобных законаў? Але, як паказвае практыка, пры адсутнасці сапраўднага парламента наўрад ці магчыма тут дасягнуць нейкага поспеху. Прыгадаю на гэты конт размову са спецдакладчыкам Парламенцкай Асамблеі Савета Еўропы Хрыстасам Пургурыдэсам. На пытанне, ці пагоршыць становішча прэсы праект закона аб СМІ, які выспявае ва ўладных структурах, ён адказаў:"Я не ўпэўнены, што новы закон пагоршыць сітуацыю з прэсай. Справа ў тым, што сітуацыя залежыць ад шэрагу іншых важных фактараў і не толькі ад закона. Нават калі будзе самы цудоўны закон, то, калі дзяржава будзе маніпуляваць прэсай, яна будзе гэта рабіць. Закон — гэта важная частка, але не самая галоўная".

Сапраўды, ці шмат карысці ад таго, што ў Канстытуцыі прапісана свабода слова. Дык як будаваць сваю далейшую працу і як дамагчыся пераменаў? Гэта якраз было асноўным клопатам двухдзённага форуму праваабаронцаў. Супраціўленне і салідарнасць — вось тое, чым можна адказаць на пагаршэнне сітуацыі з правамі чалавека ў Беларусі.

## Спадзяванні на ААН

Прадстаўнік Міжнароднай федэрацыі правоў чалавека Філіп Кальфаян, які таксама прыехаў у Мінск, адзначыў у сваім выступленні: *"Тры гады таму мы нават не падазравалі, што тэндэнцыя пагаршэння рэпрэсіўных метадаў у Беларусі будзе настолькі моцнай, наколькі Лукашэнка змог лёгка выйграць другія выбары. Замест таго каб выкарыстаць гэты момант для палітычнай стабілізацыі ў краіне, прэзідэнцкая адміністрацыя канчаткова закруціла гайкі і стараецца знішчыць грамадзянскую супольнасць".*

Міжнародная федэрацыя правоў чалавека супольна са сваімі партнёрамі працягвае праграму маніторынгу статусу праваабаронцаў у Беларусі. Яна накіравана на прарыў ізаляцыі як саміх праваабаронцаў, так і ахвяраў рэпрэсій. Гэтая праграма складзена ў адпаведнасці з Дэкларацыяй ААН аб праваабаронцах 1998 года і базіруецца на неабходнасці сістэмнага адказу грамадскіх арганізацый і міжнароднай супольнасці на дзеянні ўладаў Беларусі.

Дарэчы, у Форуме праваабаронцаў прынялі ўдзел каля пяцідзесяці сяброў міжнародных арганізацый, супрацоўнікаў міжурадавых структур і дыпламатычных місій. Прадстаўнік Міжнароднай амністыі Наталі Лосекут адзначыла, што заклапочанасць сітуацыяй у Беларусі застаецца, так як улады прыкладаюць надта мала намаганняў для расследавання парушэнняў правоў чалавека і не рэагуюць на заявы праваабарончых арганізацый, а гэта з'яўляецца парушэннем міжнародных стандартаў.

У 2003 годзе Камісія ААН па правах чалавека прыняла рэзалюцыю адносна выкрадання апазіцыянераў Юрыя Захаранкі і Віктара Ганчара, бізнесоўца Анатоля Красоўскага і аператара ГРТ Дзмітрыя Завадскага. Як лічыць Міжнародная амністыя, хаця беларускі ўрад не выканаў рэкамендацый ААН і іншых міжнародных арганізацый, гэтая рэзалюцыя зрабіла сваю справу. Многія органы ААН атрымалі заявы беларускіх грамадзян і перадалі сваю заклапочанасць на адрас уладаў Беларусі.

*"На жаль, рэакцыя беларускіх уладаў не аблегчыла працу гэтых органаў. Тым не менш сітуацыя з правамі чалавека ў Беларусі павінна разглядацца на міжнародным узроўні, і ўрады канкрэтных краін павінны несці адказнасць за свае дзеянні",* — падкрэсліла Н. Лосекут.

Калі паўплываць на сітуацыю ў Беларусі не ўдаецца з дапамогай ветлівых просьбаў, спакойнага лабіравання, персанальнага абмену думкамі, трэнінгаў, то застаецца яшчэ адзін спосаб — міжнародны ціск. Міжнародная амністыя заявіла пра сваё жаданне дамагацца вельмі жорсткай рэзалюцыі па Беларусі на сёлетняй сесіі Камісіі ААН па правах чалавека ў Жэневе. Магчыма, другая запар рэзалюцыя падштурхне беларускія ўлады да ажыццяўлення канкрэтных мер.

*"Мы лічым, што рэзалюцыя ААН мае больш шырокі маштаб у параўнанні з падобным дакументам Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы,* — патлумачыла на Форуме Наталі Лосекут. — *Яна тычыцца ўсіх краін свету, а не толькі еўрапейскіх. У той жа час сігналы, якія мы атрымдіваем з ПАРЭ, паказваюць, што Асамблея ў курсе беларускіх спраў. А вось сябры Камісіі ААН па правах чалавека павінны атрымаць больш інфармацыі. Рэкамендацыі ААН важныя не толькі як сігналы беларускім уладам, але і як сігналы міжнароднай супольнасці, якая павінна будзе карэкціраваць свае адносіны з кіраўніцтвам Беларусі".*

## Дзверы ў Еўропу могуць зачыніцца

Пра настрой у міжурадавых структурах — АБСЕ, Савеце Еўропы, Еўрапейскім Саюзе — можна меркаваць па выступленнях іх прадстаўнікоў на форуме. Кіраўнік Офіса АБСЕ ў Мінску **Эберхард ХАЙКЕН** выказаў павагу да настойлівасці, энергіі і мужнасці беларускіх праваабаронцаў, якім даводзіцца працаваць у складаных, суровых умовах.

*"Абарона правоў чалавека — гэта найпершаы абавязак урада,* — нагадаў Э.Хайкен. — *Ні адзін урад не можа казаць пра тое, што эканамічная бяспека ідзе перад станаўленнем правоў чалавека і дэмакратыі. На тэрыторыі АБСЕ правы чалавека не разглядаюцца як унутраная справа асобнай краіны".*

Менавіта з прычыны падаўлення правоў чалавека беларускія ўлады так і не дамагліся вяртання статусу спецыяльна запрошанай у Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы. Практычна Беларусь — адзіная краіна ў Еўропе, якая не інтэгравалася ў гэтую ўплывовую структуру. Асноўныя яе мэты — развіццё плюралістычнай дэмакратыі, вяршэнства права, абарона правоў чалавека і фундаментальных свабод. *"Гэтыя крытэрыі, важныя для Савета Еўропы, не выконвае беларускае кіраўніцтва,* — нагадала ў сваім выступленні на форуме супрацоўніка дырэктарата па правах чалавека Савета Еўропы **Таццяна ЦЕРМАЧЫЧ.** — *Мы пакідаем адчыненыя дзверы для Беларусі, але, каб пранікнуць глыбей у нашу структуру, беларускі ўрад павінен зрабіць пэўныя крокі".*

Парламенцкая асамблея спрабавала падтрымліваць дыялог з афіцыйным Мінскам, зыходзячы з таго, што ізаляцыя краіны не з'яўляецца лепшай палітыкай. Гэтым можна патлумачыць працяг двухбаковай кааперацыі ў асобных галінах. Улады Беларусі спрабуюць устанавіць афіцыйныя кантакты з Саветам Еўропы. У мінулым годзе беларускі МЗС заявіў пра жаданне далучыцца да адной з канвенцый па крымінальным праве. Але гэтае пытанне было адхілена Страсбургам па прычыне сумневаў у незалежнасці судовай сістэмы Беларусі. Беларуская афіцыйная дэлегацыя запрашалася ў госці на пасяджэнні ПАСЕ, сустракалася з Генеральным сакратаром Савета Еўропы Вальтэрам Швімерам. Члены афіцыйнай дэлегацыі абяцалі многае зрабіць, але пасля вяртання ў Мінск нічога не мянялася. Урэшце, В.Швімер заявіў, што не будзе прымаць афіцыйную дэлегацыю да той пары, пакуль беларускі бок не прыме пэўныя канкрэтныя меры. *"Урэшце дзверы, якія пакуль прыадчыненыя, могуць надоўга зачыніцца з трэскам",* — сказала Т. Цермачыч.

Ад пазіцыі Савета Еўропы залежыць і палітыка Еўрапейскага саюза, што датычыцца Беларусі. Еўрапейская камісія, якую на форуме праваабаронцаў рэпрэзентавала **Ганна КОІСЦІНЕН** (генеральны дырэктарат па знешніх сувязях), таксама хоча бачыць Рэспубліку Беларусь дэмакрытычнай, стабільнай краінай-партнёрам, якая развіваецца і паляпшае стандарты жыцця. Еўрасаюз спрабуе падтрымліваць дэмакратычны рух у нашай краіне, усталяванне верхавенства закона, правоў чалавека і фундаментальных свабод. Гэта якраз тыя каштоўнасці, якія таксама падзяляюць ААН і АБСЕ.

Як вядома, Еўрапейскі Саюз прапануе праграму падтрымкі для Беларусі. Па лініі TASIS асноўная сродкі плануецца выдзяляць на развіццё грамадзянскай супольнасці, ліквідацыю наступстваў чарнобыльскай аварыі і вышэйшую адукацыю. Але нават тое, што беларускаму боку прапануецца дарэмна, сустракае перашкоды.

*"Праграма яшчэ не запушчана,* — адзначыла на форуме Г.Коісцінен. — *Прычына затрымкі ў тым, што беларускае падатковае заканадаўства негатыўна рэгулюе падаткі па праектах, і патрэбна падпісаць некаторыя дакументы. Я спадзяюся, што вырашыць гэтыя праблемы нам удасца найбліжэйшым часам".*

## Улада хавае канцы ў ваду

У першы дзень працы форуму прайшла спантанная прэс-канферэнцыя вядомага расійскага праваабаронца Сяргея Кавалёва, якому ўвосень мінулага года не ўдалося наведаць Мінск у якасці кіраўніка падкамітэта ПАСЕ па справах зніклых. Тады беларускія ўлады палічылі ягоны прыезд "непажаданым". С. Кавалёў заўважыў, што ў Беларусь яму дазваляюць прыехаць толькі як прыватнай асобе.

Тэма палітычных выкраданняў была адной з цэнтральных на форуме. Мемарандум Х.Пургурыдэса "Зніклыя асобы ў Беларусі" быў раздадзены кожнаму ўдзельніку сустрэчы. На пытанне ці можна сцвярджаць, што беларускія ўлады сапраўды маюць дачыненне да знікнення апазіцыйных палітыкаў, Сяргей КАВАЛЁЎ адказаў:

*"Гэтае пытанне прадугледжвае два адказы. Па-першае, ні спецдакладчык ПАСЕ Пургурыдэс, ні наш падкамітэт не маюць строгіх юрыдычных доказаў датычнасці ўладаў да знікненняў і забойстваў дзеячаў апазіцыі. Па-другое, тым не менш і спецдакладчык, і наш падкамітэт (а хутка будзе даклад нашага падкамітэта) маюць усе падставы лічыць, што ўзаемадзеянне з беларускімі ўладамі несумненна ўзмацняе падазрэнні ў яе датычнасці да гэтага. Калі вы хочаце ведаць маю думку, то ёсць самая непасрэдная і высокая ступень датычнасці".*

Па словах С.Кавалёва, беларускія ўлады "проста хлусяць". У іх адзінае выйсце: каб адмыцца ад падазрэнняў, неабходна забяспечыць поўную празрыстасць расследавання. "Калі ўлада хавае канцы ў ваду, то ёй ёсць што хаваць", — лічыць С.Кавалёў.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ.**

# РЭЗАЛЮЦЫЯ

## беларускіх удзельнікаў Форуму праваабаронцаў

Мы, беларускія ўдзельнікі Форуму праваабаронцаў, заслухаўшы даклады і абмеркаваўшы пытанні выканання правоў чалавека ў Рэспубліцы Беларусь, з глыбокай занепакоенасцю за сённяшняе і будучае нашай краіны адзначаем:

Шматлікія факты парушэнняў правоў чалавека ў Рэспубліцы Беларусь, якія выражаюцца ў палітычна матываваных выкраданнях і пераследзе апанентаў рэжыму, незаконным увядзеннем цэнзуры ў СМІ, пераследзе журналістаў незалежных СМІ за публікацыю матэрыялаў, якія ўтрымліваюць крытыку палітыкі прэзідэнта і яго атачэння, ліквідацыі па ініцыятыве дзяржаўных органаў, у тым ліку і ў судовым парадку, незалежных газет і грамадскіх аб'яднанняў, парушэнні рэлігійных правоў грамадзян і іншых парушэннях палітычных, грамадзянскіх, выбарчых, сацыяльных і моўных правоў.

Шматлікія прынятыя заканадаўчыя акты не адпавядаюць міжнародным нормам у галіне правоў чалавека, вядуць да парушэння канстытуцыйных правоў грамадзян у Рэспубліцы Беларусь. Сярод іх Законы Рэспублікі Беларусь "Аб свабодзе сумлення і рэлігійных арганізацыях", "Аб масавых мерапрыемствах у Рэспубліцы Беларусь", "Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь", а таксама праект закона "Аб сродках масавай інфармацыі ў Рэспубліцы Беларусь".

У Рэспубліцы Беларусь адсутнічае незалежная судовая сістэма як самастойная галіна ўлады, адсутнічае інстытут незалежнай адвакатуры. Гэта робіць фактычна немагчымай абарону парушаных правоў грамадзян у судовым парадку, пазбаўляе грамадзян краіны на незалежнае і справядлівае судовае разбіральніцтва, абмяжоўвае доступ да правасуддзя.

Асаблівую занепакоенасць прадстаўнікоў праваабарончага руху Беларусі выклікае тое, што дагэтуль не праведзена поўнае, аб'ектыўнае і галоснае расследаванне гвалтоўных выкраданняў вядомых палітычных і грамадскіх дзеячаў — Юрыя Захаранкі, Віктара Ганчара, Анатоля Красоўскага, Дзмітрыя Завадскага. Выснова аб тым, што такое расследаванне не праведзена, знайшла сваё адлюстраванне ў афіцыйным дакладзе Камітэта па юрыдычных пытаннях і правах чалавека Парламенцкай Асамблеі Савета Еўропы. Дадзеная выснова і інфармацыя, якая стала вядома ў выніку правядзення журналісцкіх і грамадскіх расследаванняў, дае падставы меркаваць аб дачыненні некаторых высокапастаўленых дзяржаўных чыноўнікаў і службовых асобаў, у тым ліку Генеральнага пракурора В. Шэймана, міністра спорту Ю. Сівакова, міністра Унутраных спраў У. Навумава, афіцэра СОБРа Д.Паўлічэнкі і іншых, да здзяйснення злачынстваў, скіраваных на выкраданне, а, магчыма, і фізічную ліквідацыю Ю. Захаранкі, В. Ганчара, А. Красоўскага, Д. Завадскага па палітычных матывах.

МЫ — прадстаўнікі праваабарончага руху Беларусі ПРЫЙШЛІ ДА ВЫСНОВЫ, што:

— сітуацыя з выкананнем правоў чалавека ў Беларусі няўхільна пагаршаецца;

— прадстаўнікі афіцыйных уладаў груба парушаюць Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь, міжнародныя пакты і канвенцыі, ратыфікаваныя Рэспублікай Беларусь, рэзалюцыі і рэкамендацыі міжнародных арганізацый, у тым ліку ААН, АБСЕ, ПАСЕ і інш;

— у Рэспубліцы Беларусь мае месца дыскрымінацыя па нацыянальнай, рэлігійнай і моўнай прыкметах у разнастайных яе формах і праявах;

— у краіне створаны жорсткі аўтарытарны рэжым асабістай улады А. Лукашэнкі, фактычна знішчаны такія інстытуты грамадзянскай супольнасці, як незалежныя электронныя і друкаваныя СМІ, незалежныя грамадскія аб'яднанні, а створаная нядаўна адзіная дзяржаўная ідэалогія сведчыць пра з'яўленні ў краіне элементаў таталітарызму;

— пераслед і перашкоды ў дзейнасці праваабаронцаў ставяць праваабарончую дзейнасць па-за законам.

МЫ — удзельнікі Форуму беларускіх праваабаронцаў ПАТРАБУЕМ ад афіцыйных уладаў Рэспублікі Беларусь:

— няўхільна прытрымлівацца міжнародных абавязацельстваў у галіне правоў чалавека, узятых на сябе Рэспублікай Беларусь, а таксама прыняць меры да рэальнага забеспячэння гарантаваных Канстытуцыяй правоў і свабод грамадзян у Рэспубліцы Беларусь і рэалізацыі выпрацаваных удзельнікамі Форуму рэкамендацый;

— правесці поўнае, аб'ектыўнае і галоснае расследаванне знікненняў Юрыя Захаранкі, Віктара Ганчара, Анатоля Красоўскага, Дзмітрыя Завадскага і дзеянняў (бяздзеянняў) у сувязі з гэтымі расследаваннямі вышэйшых службовых асобаў Рэспублікі Беларусь.

Таксама лічым абавязковым на час расследавання прыпыніць паўнамоцтвы магчыма датычных да дадзеных злачынстваў службовых асоб.

— распачаць распрацоўку законаў у галіне правоў чалавека, якія забяспечваюць неад'емныя правы грамадзян і адпавядаючых патрабаванням міжнародных нормаў і Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь;

— унесці змены ў дзеючае выбарчае заканадаўства, скіраваныя на забеспячэнне прынцыпаў адкрытасці, празрыстасці і дэмакратычнасці выбарчага працэсу, якія гарантуюць рэальную рэалізацыю выбарчых правоў грамадзян краіны, таксама забяспечваюць грамадскі кантроль за выбарамі;

— правесці галосны і адкрыты дыялог паміж грамадскімі арганізацыямі, праваабарончымі групамі і прадстаўнікамі дзяржаўных органаў па пытаннях змен у заканадаўстве і практычнай рэалізацыі патрабаванняў, выкладзеных у гэтай рэзалюцыі.

Адной з самых тэрміновых праблем такога дыялогу павінна стаць пазітыўнае супрацоўніцтва ўладаў краіны з сем'ямі зніклых, праваабарончымі арганізацыямі, незалежнымі юрыстамі і міждзяржаўнымі структурамі.

Упэўненыя, што практычная рэалізацыя патрабаванняў, выкладзеных у дадзенай рэзалюцыі, дазволіць адрадзіць грамадзянскую супольнасць і стварыць сістэму дзяржаўнай улады, заснаваную на няўхільным выкананні правоў грамадзян у Беларусі, а таксама дазволіць пераадолець самаізаляцыю і пабудаваць дэмакратычную прававую дзяржаву.

ПУЛЬС

## Больш тарыфы, менш пасажыраў

Летась у Беларусі адзначана зніжэнне аб'ёмаў перавозак пасажыраў у грамадскім транспарце на фоне значнага росту тарыфаў на праезд.

Як паведамляе Міністэрства статыстыкі і аналізу, у 2003 годзе ўсімі відамі транспарту агульнага карыстання (апрача гарадскога электрычнага) перавезена 1 млрд. 767,3 млн. чалавек, што на 4,9 працэнта менш, чым было ў 2002 годзе.

Пры гэтым тарыфы на перавозкі пасажыраў усімі відамі транспарту ў цэлым выраслі летась на 33,1 працэнта. У тым ліку гарадскім транспартам — на 28,1 працэнта, аўтобусам у прыгарадных зносінах — на 40,8 працэнта, аўтобусам у міжнародніх зносінах — на 31,3 працэнта, чыгуначным транспартам у міжнародных зносінах — на 26,3 працэнта, у прыгарадных зносінах — у 1,7 раза, у рэспубліканскіх зносінах — на 31,4 працэнта, паветраным транспартам — на 31,8 працэнта.

**Аляксей АРЭШКА.**

## Колас збірае інтэлігенцыю

У сакавіку гэтага года ў Беларусі запланавана правядзенне "круглага стала" прадстаўнікоў беларускай, украінскай і расійскай дэмакратычнай інтэлігенцыі. Пра гэта ў інтэрв'ю БелаПАН паведаміў старшыня грамадскай ініцыятывы "Рада беларускай інтэлігенцыі" Уладзімір Колас.

Ён нагадаў, што Беларусь, Расія і Украіна ўвайшлі ў гісторыю як "заснавальнікі і магільшчыкі Савецкага Саюза". Разам з тым, як мяркуе У.Колас, "ідэалагічнае клішэ аб тым, што беларусы, рускія і ўкраінцы з'яўляюцца братэрскімі славянскімі народамі, вельмі часта выкарыстоўваецца ў пэўных спекулятыўных мэтах". "Аднак мы бачым, што праблемы ва ўзаемаадносінах паміж народамі трох краін выкліканы ў тым ліку і адсутнасцю трывалых кантактаў паміж прадстаўнікамі інтэлігенцыі. Інтэлігенцыя, замест таго, каб у першую чаргу займацца пытаннямі міжкультурнага дыялогу, цалкам аддала яго на водкуп палітыкам. Пры такім падыходзе да супрацоўніцтва ў галіне культуры, які пераходзіць у сферу прапаганды, цяжка чакаць аптымальнага развіцця стасункаў паміж народамі і краінамі", — падкрэсліў У.Колас.

**Марат ГАРАВЫ.**

## «Таццяна» будзе апранаць кіраўніцтва справамі Адміністрацыі прэзідэнта Расіі

Гомельскае швейнае прадпрыемства "Таццяна" атрымала заказ на пашыў уцепленага спецадзення для кіраўніцтва справамі Адміністрацыі прэзідэнта Расійскай Федэрацыі.

Як паведамілі БелаПАН у службе маркетынгу прадпрыемства "Таццяна", гэта будуць касцюмы кшталту "Завіруха", выраблены на аснове сінтэпонавага ўцяпляльніка, якія здольныя захоўваць свае цеплаахоўныя ўласцівасці і іншыя якасныя характарыстыкі пры 40-градусным марозе. 250 экземпляраў такога адзення ўжо былі выраблены сёлета для працы расійскіх нафтавікоў, газавікоў і паляўнічых ва ўмовах Крайняй Поўначы. Заказ з Адміністрацыі Уладзіміра Пуціна пацвярджае высокую якасць прадукцыі, што выпускае прадпрыемства, лічаць у аддзеле маркетынгу.

Для пашыву заказаных касцюмаў прадпрыемства атрымае з Расіі тканіну і фурнітуру павышанай якасці.

**Лавінія АРЭШКА.**

## Шведы хочуць падтрымаць экс-зэкаў

У Беларусі пачне працаваць аддзяленне грамадскай арганізацыі "КРЫС" (Швецыя, Стакгольм) па падтрымцы хворых на наркаманію, якія пакінулі месцы пазбаўлення волі.

У 2003 годзе ў месцах пазбаўлення волі знаходзілася 1300 наркаманаў, асуджаных за злачынствы, не звязаныя з наркотыкамі. Каля 40 працэнтаў наркаманаў былі асуджаны. Штогод, зазначыў спецыяліст, ад перадазіроўкі наркотыкаў у краіне паміраюць 100 чалавек, прычым большасць з іх — непаўналетнія.

**Вольга АСІПЕНКА.**

ЯК ЖЫВЕШ, ГЛЫБІНКА?

## Валяцца дахі...

Моцныя снегапады, што прайшлі апошнім часам на Гомельшчыне, абрынулі дахі звыш трох дзесяткаў пабудоў. Да прыкладу, у КСУП "Насовічы" Добрушскага раёна ўпаў дах збожжавага склада. У сельгаспрадпрыемстве "Свяцілавіцкі" Веткаўскага раёна абваліўся доўгі дах жывёлагадоўчага хлява. Паводле звестак, невялікі статак кароў не пацярпеў. Збожжа ў Насовічах таксама ўдалося сабраць.

Аднак найбольш адчувальным крокам снегапады прайшліся па Хойніцкім раёне. У самім райцэнтры позна ноччу ад снегу абрынуўся дах 8-кватэрнага жылога дома №5 па вуліцы В.Церашковай. Дом гэты належыць Палескаму дзяржаўнаму радыяцыйна-экалагічнаму запаведніку. Людзей з дома эвакуіравалі: каго ў інтэрнат, а іншых — да сваякоў. Ніхто з жыхароў не пацярпеў. Сцены і перакрыцці засталіся цэлымі. Проста пад цяжарам снегу ўзведзены шатровы дах зваліўся на процілеглы ад вуліцы бок.

Наколькі вядома, праект рэканструкцыі гэтага дома па замове Камчарнобылю рабілі і хойніцкія, і мінскія, і гомельскія архітэктары. Валаводзілі па крузе. Вінаваты праекціроўшчыкі ці будаўнікі, пакуль яшчэ невядома.

Напрыканцы мінулага тыдня аварыйныя брыгады шпаркімі тэмпамі аднаўлялі дах. Як і да рэканструкцыі, ён стаў ужо не шатровым, а плоскім, засланым рубероідам.

У суботу старшыня Хойніцкага райвыканкама Мікалай Садчанка запэўніваў: *"Сёння людзей засяляем назад, рамонтныя работы амаль скончаны. Дах гатовы поўнасцю".*

Насамрэч большасць сем'яў вярнулася ў свае кватэры толькі ў нядзелю Аднак рамонтныя работы на доме яшчэ працягваліся і ў панядзелак.

Ніякай матэрыяльнай дапамогі эвакуіраваным жыхарам мясцовыя ўлады не аказалі. *"Яны ж не пацярпелі, і маёмасць іхняя цэлая",* — заявіў Мікалай Садчанка. Толькі прафкам запаведніка выдзеліў сваім пяці працаўнікам, якія жывуць у пацярпелым доме, па 50 тысяч рублёў у якасці матэрыяльнай падтрымкі.

Абваліўся дах у Хойніцкім раёне ў саўгасным двухпавярховым доме на 16 сем'яў у вёсцы Судкова, моцна забруджанай радыяцыяй.

— Раніцай у гадзін дзесяць былі дома, калі штосьці бухнула, — расказвае жыхарка аварыйнага дома Тамара Левянкова. — Думалі, гром які. Сусед выйшаў, глядзіць — дах упаў. Упала сярэдзіна. Пагнілі кроквы. Паскідалі ўсё зверху — адна парахня ляжыць. Дому ўжо 34 гады, але яго ніхто ніколі не рамантаваў.

У Судкове, праўда, у прыватным доме жыве і старшыня райвыканкама Мікалай Садчанка. Да таго, як узначаліць раённую вертыкаль, ён працаваў тут дырэктарам саўгаса. Аднак суседства ніякім чынам не паўплывала на стан дома, дзе абваліўся дах.

— Мы за камунальныя паслугі, каналізацыю і ваду адмаўляліся плаціць. Не працавала каналізацыя. Вадаправодныя трубы ў кватэрах поўнасцю гнілыя, "перабінтаваныя". Напор дадуць большы — трубы рвуцца, кватэры затопліваюць. Я на першым паверсе жыву, дык з другога паверха мяне залівае. Вада ў трубах цячэ ржавая. Чайнікі, каструлі — ржавыя. Таму мы не хочам плаціць за брудную ваду, паскардзілася вясковая жанчына.

Аднаўленне даху ў Судкове яшчэ не закончылі, хаця будаўнікі працуюць зранку да позняга вечара. Адначасова рамонтнікі паправілі каналізацыю. Як сумна жартуе пенсіянерка Валянціна Коўзік, без гора шчасця не бывае.

Мясцовыя жыхары разам з аднаўленнем даху і каналізацыі патрабуюць адначасова адрамантаваць вадаправодныя трубы і абавязкова падвесці прыродны газ. Дом, у якім, апроч дарослых, жывуць два дзесяткі дзяцей, гадоў сем таму адключылі ад цэнтральнага ацяплення. Людзі вымушаны былі і на першым, і на другім паверхах скласці грубкі, і цяпер ужо каторы год ацяпляюць сваё жытло радыеактыўнымі дрывамі.

**Анатоль ГАТОЎЧЫЦ.**

*Хойніцкі раён.*

*У Мінску — лютаўскі патоп!*

Фота ByMedia.net

ПАДТРЫМАЕМ!

## Грошы на... сметніку

Крок да цывілізаванай утылізацыі смецця зрабілі камунальныя службы Віцебска.

Генеральны дырэктар гарадскога прадпрыемства жыллёва-камунальнай гаспадаркі Лідзія Цацерава не такі ўжо вялікі начальнік, каб праводзіць канферэнцыі. Але нядаўна яна ўсё ж запрасіла журналістаў і расказала, як можна вырашыць праблему раздзельнага збору бытавога смецця з мэтай яго наступнай перапрацоўкі. Галоўнай задачай тут з'яўляецца прывучэнне насельніцтва да сартыроўкі смецця і яго размеркавання па асобных кантэйнерах з адпаведнымі надпісамі, не змешваючы разам шкло, паперу і палімерныя адыходы тыпу пластыкавых бутэлек і пакетаў. Сарціраванне смецця, якое даўно прыжылося ў развітых краінах, будзе няпроста ўкараніць у Беларусі, дзе збяднелае насельніцтва звыкла мые і сушыць на балконах поліэтыленавыя пакеты і не выкідвае ў смеццеправод шкляны посуд і нават дзіравыя жаночыя калготкі.

Тым не менш першыя "мэтавыя" кантэйнеры ўжо з'явіліся ў некалькіх віцебскіх дварах. Гэтыя акуратныя смеццезборнікі, дарэчы, каштуюць даволі дорага — каля 200 тысяч рублёў за штуку, а іх у Віцебску закуплена 90 адзінак. Але, на думку камунальнікаў, калі кантэйнеры не стануць здабычай злодзеяў і будуць выкарыстоўвацца па прызначэнні, то выдаткі хутка акупяцца за кошт прадпрыемстваў, якім спатрэбіцца смецце ў якасці вытворчай сыравіны.

Пакуль што, аднак, у Віцебску такіх прадпрыемстваў мала, але, згодна з няпісанымі законамі прагрэсу, яны павінны з'явіцца, і тады смецце са статусам другаснай сыравіны дапаможа зберагаць матэрыяльныя і энергетычныя рэсурсы нашай шматпакутнай індустрыі.

На жаль, гэтая перспектыва яшчэ вельмі далёкая, бо сярод гарадоў Віцебшчыны ў адным толькі Наваполацку распачата стварэнне смеццеперапрацоўчага завода, а макулатуру ў якасці сыравіны выкарыстоўваюць толькі ў Чашніцкім раёне. З'яўленне "тэматычных" кантэйнераў у Віцебску сур'ёзна ўсхвалявала і ўзрадавала мясцовых бамжоў, для якіх раздзельны збор смецця значна спросціць пошукі ўлюбёнай "цвёрдай валюты" — піўных бутэлек і кардону.

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

## Надрукавана невядомая аповесць Васіля Быкава «Афганец»

*У першым нумары літаратурнага часопіса "Дзеяслоў" за 2004 год апублікавана раней не вядомая аповесць Васіля Быкава "Афганец", напісаная ў 1998 годзе.*

Перад ад'ездам за мяжу вясной 1998 года В.Быкаў перадаў рукапіс на захоўванне вядомаму беларускаму літаратуразнаўцу, даследчыку творчасці пісьменніка, доктару філалогіі Міхасю Тычыну.

У інтэрв'ю БелаПАН Міхась Тычына зазначыў, што пісьменнік так і не дачакаўся лепшых часоў, каб апублікаваць сваю аповесць. Прычым, як паведаміў М.Тычына, па аўтарскім плане гэты твор пад умоўнай назвай "Афганец" меркавалася ўключыць у адзін з апошніх тамоў васьмітомнага збору твораў Васіля Быкава, але выдавецтва "Мастацкая литаратура" так і не пачало яго выдаваць. Вось чаму М.Тычына і ўдава пісьменніка Ірына Быкава вырашылі аддаць аповесць у часопіс "Дзеяслоў".

Паводле слоў вучонага, у аповесці, сапраўдная назва якой "Час шакалаў", размова ідзе пра чалавека, які прайшоў Афганістан і ведае цану ўсяму. "Гэты рашучы, гатовы на самыя радыкальныя ўчынкі "афганец" з праціўніка таталітарнага рэжыму ператварыўся ў яго самага вернага абаронцу і апору", — сказаў М.Тычына. Паводле яго слоў, з героем аповесці В.Быкава адбыліся метамарфозы, уласцівыя многім беларусам. Разам з тым, як паведаміў вучоны, кніга ўтрымлівае замалёўкі айчынных рэалій, уключаючы дзейнасць пэўных сілавых структур, разгон дэманстрацый, размовы аб палітыцы.

**Марат ГАРАВЫ, БелаПАН.**

## Затрымалі 140 вагонаў з цукрам-сырцом

*Супрацоўнікі Мазырскай мытні затрымалі ў Калінкавічах (Гомельская вобласць) больш за 140 вагонаў з цукрам-сырцом. У Дзяржаўным мытным камітэце БелаПАН пацвердзілі факт затрымання, паведаміўшы, што груз следаваў з Клайпеды (Літва) у Кірсанаўку (Украина) на перапрацоўку.*

Прычына затрымкі грузу дакладна невядомая, па некаторых звестках — няправільна афармлены суправаджальныя дакументы. Прадстаўнікі Мазырскай мытні ад каментарыяў адмаўляюцца.

Матэрыялы аб затрыманні буйной партыі цукру-сырцу разгледзеў Мазырскі аб'яднаны суд і, паводле слоў старшыні Ірыны Вярыга, прыняў рашэнне аб перадачы справы на разгляд у Гомельскі абласны суд.

**Алена ПАСКАННАЯ.**

## Тэлефільм «Карэйская пастка» Паўла Шарамета атрымаў дыплом у Нью-Йорку

*Тэлевізійны фільм "Карэйская пастка" вядомага беларускага журналіста Паўла Шарамета атрымаў дыплом фіналіста ў намінацыі "Тэлефільм на палітычную тэму" на штогадовым Міжнародным фестывалі тэлебачання ў Нью-Йорку (ЗША), дзе адзначаюцца лепшыя работы ўсіх тэлеканалаў свету.*

Як зазначыў у інтэрв'ю БелаПАН Павел Шарамет, які цяпер узначальвае аддзел спецпраектаў Першага канала (Расія), важна тое, што расійскі фільм упершыню атрымаў дыплом у намінацыі "Палітыка".

"Амерыканцы наогул ніколі не дапускаюць пабочных людзей у гэтую намінацыю — тым больш тэлекампанію з Расіі. Таму што лічыцца, што амерыканскія тэлекампаніі здольныя рабіць лепшыя фільмы аб палітыцы. Плюс — летась было шмат глабальных падзей, і ў амерыканскіх тэлекампаній было ў шмат разоў больш магчымасцяў вызначыцца", — сказаў ён.

Апрача расійскай карціны, у дадзенай намінацыі былі прадстаўлены два амерыканскія фільмы. Адзін з іх, які расказвае пра вайну ў Іраку, стаў пераможцам.

**Юлія ЦЯЛЬЦЕЎСКАЯ.**

## Паркуйся як трэба!

*Штотыднёва работнікі жыллёва-эксплуатацыйных службаў Мінска складаюць каля 4 тыс. прадпісанняў і каля 300 пратаколаў адміністратыўнай адказнасці ў дачыненні да ўладальнікаў аўтамабіляў, якія парушылі правілы часовай паркоўкі ў дварах. Апрача таго, больш за 140 адзінак аўтатранспарту "асабліва злосных парушальнікаў" транспартуюць на спецстаянкі.*

Як паведаміў БелаПАН начальнік аддзела добраўпарадкавання і санітарнага ўтрымання галоўнага вытворчага ўпраўлення жыллёвай гаспадаркі Мінгарвыканкама Аляксандр Аўраменка, па гэтых правілах аўтамабілі павінны паркавацца з супрацьлеглага боку ад жылой забудовы, не бліжэй чым за 10 метраў ад кантэйнернай пляцоўкі, а таксама не на ўездах у двор і не на дваравых разваротных кольцах. "Гэта ўсё робіцца не з мэтай зрабіць перашкоды нашым жыхарам, а каб аблегчыць абслугоўванне двароў, вываз смецця, пад'езд машын "хуткай дапамогі", — сказаў А.Аўраменка.

**Лавінія АРЭШКА.**

